# САРДЭЧНЫЯ ПРЫВІТАННІ ЖАНЧЫНАМ!




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 9 (366) | ГОД VIII | 3 САКАВІКА 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР

## Год Беластоцкай зямлі

**Сёлета знамянальнай падзеяй у жыцці Беласточчыны стаецца абнародваны Ваяводскім камітэтам Фронта адзінства народа Год Беластоцкай зямлі. Шчыльна спалучаецца ён з адзначэннем у 1963 годзе Тысячагоддзя Польскай дзяржавы, з'яўляючыся неад'емнай часткай гэтага вялікага ўсенароднага свята.**

**Год Беластоцкай зямлі — гэта праява самага шчырага клопату ўсяго грамадства аб паспяховым гаспадарчым і культурным развіцці ваяводства, гэта доказ, як блізкімі з'яўляюцца сэрцу жыхароў гарадоў і вёсак інтарэсы нашай зямлі. Няма, мабыць, такой дзялянкі жыцця, дзе б не трэба было сапраўды па-гаспадарску задбаць, каб адбыліся сур'ёзныя зрухі і змены. А пуцяводнай зоркай павінны тут быць думкі аб яшчэ больш шпаркім узняцці агульнага дабрабыту самых шырокіх мас шляхам гаспадарчай актывізацыі нават найбольш аддаленых закуткаў Беласточчыны, увядзення іх у кола багатага сёння культурнымі праявамі жыцця. Узняцце сельскагаспадарчай вытворчасці пры выкарыстанні самых сучасных форм гаспадаравання, актывізацыя насельніцтва да новых грамадскіх чынаў, маючых у нас ужо слаўную традыцыю, пашырэнне на вёсцы сеткі бібліятэк, святліц і пунктаў аховы здароўя, школьнае будаўніцтва — гэта далёка няпоўны пералік спраў, якія павінны сёлета нас асабліва турбаваць.**

**Надзённым і надзвычай важным пытаннем з'яўляецца зараз прадухіленне небяспекі паводкі як выніку вялікіх снегападаў. Агульна ж вядома, што сёлеташняя зіма прычыніла шмат бед нашай народнай гаспадарцы, снег і марозы выклікалі непаладкі ў транспарце і прамысловасці. Таму ў першую чаргу ўсе намаганні нашага ахвярнага грамадства павінны быць накіраваны на поўную ліквідацыю прычыненых усім нам шкод.**

**Год Беластоцкай зямлі кліча нас, каб дастойна сустрэць прыпадаючыя ў ім знамянальныя гадавіны. Набліжаецца дваццацігоддзе Польскай Народнай Рэспублікі і дваццацігоддзе заснавання нашых народных узброеных сіл, спаўняецца сотая гадавіна Студзеньскага паўстання. Усе мы павінны памятаць, што Беласточчына мае багатую рэвалюцыйную традыцыю, што на ёй змагаліся за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне цэлыя пакаленні ахвярных барацьбітоў, пачынаючы ад членаў Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы праз КПП і КПЗБ аж да Польскай рабочай партыі. Наша зямля прасякнута кроўю польскіх і савецкіх партызан, барацьбітоў беластоцкага гета.**

**Забавязвае гэта нас да вялікай любві да Беласточчыны, якой аддайма ўсе нашы сілы і здольнасці! Хай праца нашых рук і мазгоў памнажае багацці гэтай зямлі, хай у 1963 годзе яна закрасуе яшчэ грыгажэй.**



## З СЭРЦАМ І ЛЮБОЎЮ

**Нядаўна група польскіх жанчын пабывала ў СССР. Была гэта дэлегацыя Лігі жанчын і цікавіла яе перад усім жыццё і праца жанчын у СССР. З нашага ваяводства ў дэлегацыі ўдзельнічала ГЭЛЕНА ЖЫЛКЕВІЧ — дырэктар Педагагічнага ліцэя выхавацельніц дзіцячых садоў у Беластоку. Да яе мы і звярнуліся з просьбай падзяліцца ўражаннямі з паездкі**

Хачу на пачатку сказаць, што ў часе нашай пабыўкі ў СССР усюды віталі нас надта сардэчна. Наша дарога вяла праз Вільна ў Ленінград. Ленінград — гэта асобны раздзел у маіх уражаннях з СССР. Хоць коратка ды скажу аб ім. Бачылі помнік загінуўшых у час блакады. 700 тыс. асоб, у большасці цывільнае насельніцтва. Помнік ім — маці-айчына складае вянок на магіле сваіх дзяцей... Я моцна перажыла гэтае спатканне з загінуўшымі абаронцамі Ленінграда. На помніку заўсёды гарыць факел. Хоць мароз даходзіў да 20°, пры помніку можна было спаткаць людзей розных колераў скуры, рознай разрысоўкі вачэй. На магілах герояў заўсёды ў найгоршы мароз ляжаць свежыя кветкі. Тут чалавек міжволі сцішае голас.

Ленінград падабаецца адразу. Ён лёгкі, свежы. Нібы макам пасеяныя паркі і сады выглядаюць, як у цудоўнай казцы.

Наша дэлегацыя была прынята Гарадскім саветам. Сярод улад многа жанчын. Нам сказалі, што савецкая жанчына ніколі не мела ніякай палёгкі з-за сваёй жаноцкасці. Намеснік старшыні Гарадскога савета — жанчына, кіраўнікі аддзелаў вельмі часта жанчыны.

Я пазнаёмілася з кіраўніком аддзела здароўя. Жанчына гэтая перажыла блакаду. Яна герой Савецкага Саюза. Мае высокія дзяржаўныя адзначэнні. І адначасова, які ж скромны гэта лекар. У Ленінградзе 13 тысяч лекараў, 9,5 тысяч з іх жанчыны. Амаль усе дырэктары шпіталяў — жанчыны. Для тутэйшых жанчын характэрнае імкненне да навукі, здабывання ведаў.

(Працяг на стар. 5)

А. РАЖКЕВІЧ

## Дубіны на першым месцы

Год 1962 для сельгаспадарчага гуртка ў Дубінах быў працавітым і прынёс высокія даходы. А пачалося гэта так. У 1959 годзе ў сельскагаспадарчы гурток запісалася 12 гаспадароў. У параўнанні з колькасцю гаспадароў у вёсцы (198) гэта зусім мала, але хапіла, каб зарэгістраваць гурток. Былі гэта першыя, якія хацелі гаспадараваць па-новаму, увесці на свой панадворак машыны, каб было лягчэй жыць. Адны гаварылі, што няма чаго запісвацца ў гурток, таму што вёска ляжыць каля самай Гайнаўкі і амаль зыходзіцца з горадам і што тут гуртку няма чым займацца. Другія спорылі, што машын няма чаго купляць, бо работы ім не будзе, а ў вёсцы многа дробных гаспадароў, якія ўтрымоўваюцца з працы на гайнаўскіх фабрыках. Практыка паказала зусім

(Працяг на стар. 4)

## Еўдакія Лось

* * *

**Хто паробіць за мяне маю работу?**
**Каго прасіць, каб пасадзіў расаду**
**І нанасіў зямлі прывознай, чорнай**
**На кветнік узапрэлы веснавы?..**

**Каму скажу, каб выскрабаў падлогу,**
**Працёр на шафах люстраныя шкельцы**
**Парасчыняў заклееныя вокны**
**І кволенькага маю наламаў?**

**Раблю сама, самой мне не сядзіцца,**
**Тапчуся зранку, сею і мяту,**
**Як быццам век была я гаспадыняй**
**Зямелькі ўгрэтай, кветкавага семя,**
**Нябачных шклін у прамяністых вокнах**
**І чысціні вільготнай па кутках.**

**А ўсё — вясна, усе яе заданні...**
**Я не хачу іх паручаць другому...**
**Хто ж за мяне пакутуе увосень**
**Ці горбіцца пахмурнаю зімой?**



СЯМЯТЫЧЫ фота Г. Рагазінскі



КУРЫ ПАЧУЛІ ВЯСНУ фота К. Ле

 

СПРЭЧКІ

# ЯКАЯ МАЕ БЫЦЬ ПАЭЗІЯ

У адным з апошніх нумараў «Літаратуры і Мастацтва» Адам Мальдзіс, аналізуючы сучасную беларускую літаратуру, такія паставіў запатрабаванні адносна мастацкіх твораў: «Кожны сапраўдны мастацкі твор — гэта абавязкова крок уперад. Уперад і ўверх у нязведанае» (Літ. і Маст. № 2 — 1963 г.). Так! Гэта сапраўды важныя словы, калі будзем разумець так, што кожны мастацкі твор будзе спрыяць фарміраванню грамадствам новых прагрэсіўных пеглядаў і будзе развіваць яго мысленне.

Які ж мастацкі твор будзе магчы выканаць такое заданне? Якая павінна быць яго форма, які змест? Гэтыя пытанні пачалі ўсё больш цікавіць не толькі літаратараў, але і тых, хто з літаратурай звязаны так, што ёй карыстаецца. Нас, беларусаў, яшчэ сёння чаруюча захапляюць творы Янкі Купалы. Захапляюць таму, што і форма і змест свойскім быў і такім астаецца для нашых пачуццяў. Але з якой прыемнасцю чытаюцца і творы Маякоўскага, а там жа форма ўжо зусім іншая, але змест падобны да купалаўскай паэзіі.

Якую ж у тым выпадку выбраць форму? Думаю, што форма паэзіі — гэта справа яе стваральнікаў. Але што датычыць яе зместу, дык гэта ўжо справа агульнаграмадская. Грамадства перш за ўсё цэніць паэзію не за яе форму, але за яе змест. Як яна звязана з нашым жыццём, што яна прыносіць новага ў тое жыццё. Таму сапраўдны мастак слова не можа абмяжоўвацца ў сваёй творчасці да некалькіх выбраных праблем. Жыццё — гэта не адна праблема, гэта цэлае іх скупенне, якія між сабою мяжуюць, сутыкаюцца і пранікаюць. Жывем мы не ў якой-небудзь ізаляцыі, але ў залежнасці ад акружаючай нас прыроды. Прырода, калі яе зразумеем, а разумець павінна вучыць паэзія, дае аснову нашага матэрыяльнага жыцця, вырабляе нашыя эстэтычныя пачуцці, якія так патрэбны ў штодзённым жыцці. Таму не можа адсутнічаць у паэзіі справа кахання. Гэта ж тое, што нас мабілізуе да працы і да змагання. Каханне аднак не павінна абмяжоўвацца да праблемы выключна біялагічнай, гэта паняцце шырэйшае, яго межы павінны быць пашыраны і ахапляць народ і сваю радзіму.

Недапушчальна, каб адсутнічала ў паэзіі і справа гістарычнай мінуўшчыны. Гэта ж на аснове яе выхоўваем у нашым грамадстве патрыятычна - інтэрнацыянальныя пачуцці, ды на аснове яе вучымся абмінаць памылкі, якія тармозяць ход нашага грамадскага жыцця.

У нашай беларускай паэзіі ў Польшчы павінна быць месца і праблеме польска-беларускага супрацоўніцтва.

Нашы маладыя беларускія паэты ў Польшчы далі заруку таго, што справа маршу наперад не з'яўляецца для іх якой-небудзь далёкай. Іх паэзія непарыўна звязана з жыццём беларускага грамадства, з яго імкненнямі ў будучыню.

Ці знойдзецца хто сярод нас, каб не захапляўся творамі маладога, але імклівага ў пошуках новай тэматыкі сваіх твораў паэта Віктара Шведа. Яго верш «Родная мова», «Беласточчына» і іншыя з'яўляюцца вельмі папулярнымі сярод насельніцтва Беласточчыны.

А паэзія другога маладога паэта Алеся Барскага, якая знамянуецца больш наватарскай формай. Чытачы, якія шукаюць у паэзіі новых форм творчасці, знойдуць асалоду, чытаючы вершы Барскага. Аўтар стараецца пісаць свае творы ўсё больш дасканалымі і такімі мы бачым іх, калі чытаем «Літаратурную старонку» «Нівы».

Возьмем творчасць Яшы Бурша, яна, праўда, не для кожнага з'яўляецца яшчэ зразумелай. Прызнацца трэба, што яго першыя вершы, з цяжкасцю паглынальныя для розуму, не былі таксама дасканалымі па сваёй форме. Аднак Яша Бурш, відаць, многа працуе, доказам гэтага з'яўляюцца яго апошнія творы. Яны, праўда, і сёння змушаюць максімальна мабілізаваць мысленне чытача, але адначасова ў яго ствараецца ўражанне, што гэта ўжо добры твор. Так менавіта адчувае чытач, калі чытае яго верш «Надзея». Ды гэта і нядрэнна, што чытач пачынае разгадваць думкі аўтара. Важная справа аднак, каб мастацкі твор не губляў задуманага аўтарам зместу і сэнсу, што на жаль, у наватарскай паэзіі нярэдка здараецца. А станецца гэта тады, калі аўтар будзе больш дасканаліць сваю творчасць.

Такім чынам нашы пажаданні ў адрас нашых беларускіх паэтаў наступныя: пісаць сапраўды мастацкія творы, тэматыка якіх будзе поўнасцю адлюстроўваць жыццё беларускага грамадства ў Польшчы.

**ФРАНЦІШАК БЕРНІКОВІЧ**




«Старонку» падрыхтавала рэдкалегія: А. БАРСКІ, Я. БУРШ, Я. ЧЫКВІН, В. ШВЕД.

# KONKURS LITERACKI

*Rozgłośnia Polskiego Radia, Wojewódzka Komisja Związków Zawodowych, Wydział Kultury Prezydium WRN w Białymstoku oraz dwutygodnik „Kamena" ogłaszają konkurs na opowiadanie, opowieść i reportarz literacki. W konkursie mogą brać udział wszyscy mieszkańcy województwa białostockiego.*

*Tematyl a utworów konkursowych nie jest ograniczona. Najchętniej widziane będą jednak te, które dotyczyć będą problemów i zagadnień ziemi Białostockiej.*

*Prace oryginalnę, dotychczas nie publikowane winny być nadsyłane w trzech egzemplarzach maszynopisu i zaopatrzone godłem. W załączonej, opatrzonej godłem zamkniętej kopercie należy umieścić kartkę z imieniem i nazwiskiem, a także adresem autora.*

*Utwory konkursowe należy wysyłać na adres Rozgłośni Polskiego Radia w Białymstoku — ul. Akademicka 26, z zaznaczeniem na kopercie „Konkurs literacki".*

*Termin nadsyłania prac upływa z dniem 15.IV.1963 r. Rozstrzygnięcie konkursu i ogłoszenie wyników nastąpi do dnia 15.V.1963 r.*

*W skład jury wchodzić będą przedstawiciele: Związku Literatów Polskich, Radia, Wydziału Kultury PWRN i Woj. Komisji Związków Zawodowych.*

*Za najlępsze prace przewidziane są następujące nagrody:*

I — 6000.— zł
dwie II po — 4000.— zł
trzy III po — 2000.— zł
cztery wyróżnienia po — 1000.— zł

*Organizatorzy konkursu zastrzegają dla jury prawo innego podziału nagród.*



**Уладзіслаў Дваракоўскі — нарадзіўся ў 1928 г. у Бацютах Беластоцкага ваяводства. Працуе на гаспадарцы. Супрацоўнічае з «Нівай». Літаратурны твор змяшчаем упершыню.**

## Уладзіслаў Дваракоўскі




Цямнела. Шырокая паласа ночы надцягвала з усходу. Яна прыбліжалася памалу, выганяючы святло дня ўсё далей на захад, дзе жоўтай палоскай адзначалася зайшоўшае сонца, а побач віднела чорная сцяна дажджавой хмары. Даліны рабіліся шэрыя, кожная іх няроўнасць затрачвала свой выгляд, і толькі адзінокія дрэвы, раскінутыя па ўзгорках, былі падобныя да вялікіх букетаў, уваткнутых на гарызонце ў зямлю невядомай рукой. У паветры было душна, быццам у завязаным мяшку, ды такая ціша, што ніводзін ліст не кранууся на дрэве, нават цяжкія каласы даспяваючага жыта стаялі нерухома, задуманыя, пакорна апусціўшы свае галовы. Часам па гаі праносіўся вясёлы голас зязюлі, дзе-нідзе званілі кузнечыкі, а далёка ўбаку, між дрэў, дзе ляжала вёска, праносіўся сумны спеў дзяўчат ды післівыя акорды гармонікі.

Ноч надцягвала. У сіне-цёмнай вышыні загараліся першыя зоркі, з-за небасхілу выхіліўся чырвоны круглатвары месяц, паволі падымаючыся ўсё вышэй. Аколіца адразу прыбрала іншы колер: яна як бы крыху павесялела, бясконцыя палосы жыта быццам пазалацелі, а паміж жытам зелянела, як малаком аблітая, бульба.

Усё рыхтавалася да сну. Змучаныя дзённай працай, змоўклі галасы людзей, сціхлі птушкі, нават жабы перасталі квакаць, возера стаяла ціха, падобнае да вялікага люстра. Усё засынала, толькі Сцёпа ішоў вузкаю сцяжынкаю, весела паглядаючы ў шырокі прастор, на далёкую хмару, якая быццам закамянела на месцы, ішоў ды пціху пасвістваў. Яму было так лёгка на душы, што, здавалася, у яго выраслі крылы і ён паляціць над гэтымі палямі і лясамі.

— Вось якое прыгожае жыццё, толькі браць цэлымі жменямі ды цешыцца і цешыцца, — гаварыў ён сам сабе. — Вось каб Лена была тут! А можа зайсці?

На ўспаміны аб сваёй дзяўчыне яго сэрца забіла хутчэй, ён успомніў усе яе ласкі за гэтыя два гады, яе хваляванне грудзей, яе ціхі шэпт і гарачыя вусны, якія мелі смак мёду. Яму моцна захацелася пабачыць яе, прытуліць да сябе ды моцна-моцна цалаваць, цалаваць аж да крыві, каб выпіць увесь нектар маладосці.

— Лена... Лена... Леначка... — шаптаў ён, абымаючы рукамі пустое паветра перад сабою. Прайшоўшы крыху далей, ён спыніўся, пільна ўглядаючыся наперад. Яму здалося, што нехта мільгануў праз дарогу, знаёмая паходка, якая прыпамінала яму знаёмую постаць. Ён кінуўся бегчы з усёй сілы.

— Лена... — амаль не крыкнуў на ўсё горла, падбягаючы да высокай старой вярбы, дзе стаяла невысокая дзяўчына і прыгожа ўсміхалася.

— Леначка, што ж ты тут робіш у гэтакую пару? — запытаў ён, абымаючы яе.

— Цябе чакаю, — адказала ледзь чутна. — Цябе! — прашаптала, абымаючы яго і моцна тулячыся, ласкавымі словамі гаварыла: — Цябе, мой даражэнькі, сумна мне было, хацелася пабачыць цябе, прытуліцца, мой ты найдаражэйшы.

Месяц ужо падняўся высакавата, плывучы па бясконцым небе. Зоркі залётна мігалі зялёным агнём, на захадзе падымалася чорная хмара. Кругом была яшчэ цішыня. Нават дрэвы, здаецца, пазасыналі, і ніводзін голас не трывожыў начной цішы, толькі недалёка ад возера, пры дарозе, сядзелі закаханыя, заглыбіўшыся ў інтымнасць. Чаго ім не хапала на гэтай зямлі! Яны былі шчаслівыя, як дзеці. Трымаючыся за рукі, яны глядзелі ў свае сэрцы, як у адкрытае люстра, бачачы ў ім сваю будучыню.

— Паглядзі, — сказаў ён, — якая прыгажосць! Гэта ж папросту не наша зямля, а нейкі зачараваны свет, дзе няма ніякага зла, усе людзі— сябры адзін другому, браты. Кахаць — гэта ж найцудаўнейшы ўспамін чалавечага жыцця, бо толькі каханне прыносіць чалавеку шчасце.

— Так прыгожа, толькі марыць і марыць! Але скажы, Сцёпа, ці сапраўды мяне кахаеш? — спытала яна. — Скажы, ці ты мяне не пакінеш — скажы праўду!

— Леначка, чаму ты раніш маё сэрца? Ці не давяраеш мне? Я цябе ніколі не пакіну. Я без цябе не змагу жыць. Лена, я ж табе гавару, — запэўняў ён.

— Калі любіш, дык прысягні, што застанеш маім найвярнейшым.

— На ўсё я табе прысягну, — гаварыў ён. Але чаму ты мне не давяраеш?

— Бо мне здаецца, што ты мяне пакінеш.

— Я? Да гэтага ніколі не дойдзе! Клянуся табе на свайго бацьку, на сваю...

Недзе ў гаі закрычала сава, вецер парушыў лісткі дрэў. Яны ціхенька зашумелі, як бы пацвярджалі гэтае заклінанне, гэтую прысягу, яны былі аднымі сведкамі сядзеўшай дзяўчыны і перад ёю на каленях стаяўшага хлапца.

— Ніколі цябе не пакіну, — закончыў ён.

— Датрымай сваіх слоў, бо моцна сагрэшыш, — сказала яна і, узяўшы яго за галаву, пацалавала ў вусны.

Ізноў недзе блізка закрычала сава, але тым разам неяк сумна, як бы прадказваючы нешта дрэннае.

— Дождж будзе, — сказаў ён, але не гэта хацеў сказаць. Яму чагосьці зрабілася страшнавата.

Ізноў ішло ўсё па-ранейшаму, часамі вецярок варушыў лісткі дрэў, а на небе пачалі праплываць ледзь відочныя адарваныя камкі хмар.

— Дамоў пара, — праваў ён маўчанне, бо гутарка неяк не клеілася.

— Дамоў, — уздыхнула яна і паднялася на ногі. Але ўстрывожана

(Працяг на стар. 4)



 

# АПОШНІ ВЕЧАР

(Працяг са стар. 3)

аглянулася і, закрыўшы рукамі вочы, зноў села.

— Што з табою, Лена? — спытаў ён яе і, узяўшы за рукі, зазірнуў у вочы. З яе прыгожых сініх вачэй капалі вялікімі кроплямі слёзы і паволі адна за другой падалі на сукенку.

— Чаго ж ты плачаш, дарагая? — спытаў, цалуючы яе рукі, мокрыя ад слёз.

— Гэта ж ад радасці, — прашаптала яна.

— Якой радасці, што з табою сёння?

— Ад радасці, што ўсе нашы мары збываюцца, ад таго, што ў хуткім часе я спадзяюся пацехі.

— Не разумею, — сказаў ён, пусціўшы яе рукі.

— Божа, не разумее! Я... я цяжарная...

— Што! — ускрыкнуў ён, адскочыўшы ад яе, як ашпараны. — Ці гэта магчыма? Брэшаш!

— Сапраўды, Сцёпа, гэта ж тваё, — прашаптала яна праз слёзы, абняўшы яго за калені.

— Брэшаш, сволач! — ускрыкнуў ён, адпіхнуўшы яе, як шчаня. — Чаму не гаварыла?! То ты так вядзеш сябе!

Яна ўпала на калені і з нямой просьбай пачала прасіць:

— Каханы мой, Сцёпанька, гэта ж тваё. Сам ведаеш, чаму адразу не сказала, чаму табе не прызналася, чаму...

— Маўчы, свалата. Ад сённяшняга вечара больш цябе не знаю, — завурчаў, як сабака, аддаляючыся.

— Сцёпа... Сцё-о-о-опа! — крыкнула яна на ўвесь голас, ды кінулася бегчы за ім, але ўжо нікога не было, толькі ў вачах пацямнела. Яна падбегла крыху і, упаўшы ніцма на зямлю, моцна заплакала. Слёзы паляцелі ручаём, праз усё цела праходзілі сутаргі. Заходзілася ад плачу і рвала на сабе валасы і з гэтай злосці, з гэтай несправядлівасці яна не памятала, што рабіла, адно ёй убілася ў галаву, што больш ён не вернецца, а яна не перанясе гэтага сораму.

— Сцёпа... Сцёп... а-а! ледзь чутна паўтарала яна праз слёзы, яшчэ зусім не верачы, што гэта сталася так раптам. Мабыць, гэта сон, і зараз ён яе возьме на рукі і прыцісне да сябе, як малое скрыўджанае дзіця. Усё яму прабачыць. Яна ўстала і аглянулася вакол. Нікога не было, толькі вецер шумеў ды месяц схаваўся за хмары. Наступіла такая цемра, быццам у труне. Нічога за некалькі крокаў не было відаць. Недзе далёка бліснула маланка, асвятляючы ўсё вакол нейкім чырвоным светам і здавалася, што яе агністы хвост упаў у возера, якое пачало хвалявацца. Дзесь у канцы вёскі забрахаў сабака, пасля другі. і ў гэты момант моцна грымнуў гром.

— Няма яго, — прашаптала ледзь чутна. а слёзы паліліся хваляю, і сэрца балела, быццам яго хтосьці вырываў з грудзей. Яна стаяла. як закамянелая, быццам выкаваная з бронзы, потым іранічна ўсміхнулася і. падышоўшы да таго мес-

(Працяг на стар. 7)



# СЯРЭБРАНЫ ЭКРАН ПАД СЯЛЯНСКІМІ СТРЭХАМІ

Радыё перастала ўжо быць у нашых вёсках атракцыяй. Зараз, мабыць, не сустрэнеш вёскі на Беласточчыне, у якой не было б некалькі радыёпрыёмнікаў.

Распаўсюджваннем радыёпрыёмнікаў на Гайнаўшчыне займаецца магазін прадпрыемства радыё-тэлевізійных паслуг, так званы ЗУРТ. Магазін у Гайнаўцы існуе ад мінулага года. За гэты кароткі час ён прадаў каля 1000 радыёпрыёмнікаў. Пераважная большасць іх была куплена сялянамі.

У апошні час гайнаўскі ЗУРТ заняўся распаўсюджваннем тэлевізараў. У першых днях гэтага года ў магазіне продана 50 тэлевізараў. 10 тэлевізараў купілі сяляне.

— Многія сяляне, — кажа кіраўнік магазіна Данель Вжосэк, — чакаюць на поўны пуск беластоцкай тэлевізійнай станцыі. Тады і яны абзавядуцца тэлевізарамі. Жадаем ім выразнага вобразу на сярэбраным экране. (вб)

**На здымку: у гайнаўскім магазіне ЗУРТ.**

фота: **Г. Рагазінскі**

# Дубіны

Працяг са стар. 1

другое. Гурткоўцы ў вёсцы паставілі на сваім і пачалі дзейнічаць. І сёння не толькі малышы з Дубін, але і аколіцы, знаюць такія прозвішчы як Ян Верамюк, Косця Ярмоц, Ян Юрчук, Мікалай Галёнка. Знаюць асабліва Косцю Ярмоца, які з'яўляецца гаспадаром гурткоўскіх машын.

Упершыню ў 1960 годзе гурткоўцы сабралі ўклады і купілі малатарню. Аказалася, што работы хапае, а часта нават выходзілі спрэчкі, каму першаму малаціць. У нядоўгім часе закуплены быў і другі агрэгат. Цяпер гурток з Дубін не толькі сваю вёску стаў абмалочваць, але і суседнія прысёлкі ў радыусе 5 км.

На два кіламетры расцягваецца роўная па велічыні Дубінам вёска Навасады, але ініцыятыва яе жыхароў засталася далёка ззаду ў дубінцаў. Многія з гаспадароў Навасад у мінулым годзе спрабавалі ажывіць сельскагаспадарчы гурток сваёй вёскі, хацелі купіць агрэгат, але як дагэтуль — быў гэта саламяны ўзрыў. Ужо гурткоўцы з Дубін жартуюць з навасадцаў, кажучы, што як так далей будзе, дык Дубіны забяруць фонд развіцця сельскай гаспадаркі ад Навасад і выкарыстаюць на закуп машын для сябе.

Год 1962 прынёс гуртку ў Дубінах добрыя вынікі, бо з працы двух агрэгатаў атрымалі 16 тысяч злотых чыстага даходу. Гэта спрыяла далейшаму развіццю механізацыі і неўзабаве ў Дубінах затуркатаў трактар. На гадавым сходзе гаспадаром машын выбраны быў Косця Ярмоц, бухгалтарам — Мікола Галенка, і была ўстаноўлена ім зарплата — 3% ад атрыманых абаротаў машын.

Мінулае лета не вельмі спрыяла для работы машынамі ў полі, але Ярмоц — чалавек упарты. Узяў сабе за гонар, што іх сельскагаспадарчы гурток будзе першы ў павеце, а можа нават у ваяводстве. Былі такія, што прыходзілі і шукалі Ярмоца, каб наняць трактар да работы ў полі, але ў многіх выпадках Ярмоц сам шукаў працы для трактара.

У ліпені 1962 года гурток закуплівае другі трактар цяжэйшага тыпу «Урсус С—451» і пачынаецца сапраўды добрая работа. Калі нельга працаваць у полі, трактары выкарыстоўваюцца як транспарт для сваіх жыхароў або для ГС-у. Нават цяпер, калі маразы, здавалася б, затрымалі ўсё, дубінскі трактар не стаіць. Дзякуючы старанням і ініцыятыве старшыні гуртка Я. Верамюку, К. Ярмоцу гурток падпісаў з млечарняй у Гайнаўцы ўмову на дастаўку лёду. Мае трактар працу — маюць і заробак гурткоўцы, якія ездзяць грузіць лёд. Маюць чым пахваліцца Дубіны. Як паказваюць апошнія аб-

# Дзіцячаму саду ў Мілейчыцах неабходна пашырэнне

У Мілейчыцах існуе дзіцячы сад. Але 50 працэнтаў дзяцей засталося дома толькі таму, што дзіцячы сад займае вельмі малое, непрыдатнае да гэтай мэты памяшканне.

На 71 дзіця ёсць толькі два пакоі. Тут і гульні, сталоўка, і пакой для агульнавыхаваўчых заняткаў. Ва ўмывальні (10 м²), дзе адначасова і туалет, знаходзіцца і раздзявальня для 9-цічасавага персаналу і 71 дзіцяці. Зусім няма піўніцы, якая вельмі патрэбна на харчавыя прадукты ў такім, як дзіцячы сад, месцы агульнага харчавання. Няма таксама асобнага пакою на спальню. Дзеці спяць у тым самым пакоі, дзе гуляюць, а потым пасцель складаюць у кучу за шафай, што ў ніякім выпадку не можа лічыцца гігіенічным.

Нават цяжка зразумець, як у такіх умовах ахвярнаму выхаваўчаму калектыву ўдаецца дабіцца добрых поспехаў у выхаваўчай працы, колькі гэта патрабуе намаганняў, сіл і ахвярнасці.

На сходзе бацькоўскага камітэта была парушана справа цеснаты ў дзіцячым садзе і адначасова ўсплыло пытанне: чаму 1/3 жыллёвай плошчы гэтага будынка аддана пад прыватную ква-

(Працяг на стар. 7)



**Дзіцячы сад у Мілейчыцах**

(Працяг са стар. 2)

Жанчына асела на падагнуўшыхся нагах.

— Герберт, — прашаптала яна, трацячы прытомнасць.

Герберт Ланге схапіў яе на рукі.

**ВЫЙСЦЕ АДНО**

Надзвычайныя абставіны прымусілі Аскера ісці ў дом Ланге. Іх самалёт, які ішоў у агульным страі, адлучыўся ў час бамбардзіроўкі і накіраваўся ў раён вакзала. Непадалёку знаходзіўся лес. Над ім Аскер і Ланге выскачылі на парашутах. Прызямліліся ўдачна, хутка адшукалі адзін аднаго і грузавы парашут з чамаданамі, зарылі парашуты.

Цяпер трэба было дастацца на вакзал, дачакацца ранішняга цягніка з усходу і разам з высеўшымі з яго пасажырамі пакінуць станцыю. Аскер і Ланге накіраваліся на ўскраіну лесу. Але там была пазіцыя зенітнай батарэі. Яны падаліся правей, аднак і тут шлях быў адрэзаны — уздоўж лесу цягнулася сцяна, абнесеная калючым дротам. Давялося рабіць глыбокі абход, прайсці з дзесятак кіламетраў перш, чым яны аказаліся ля мэты.

Канчаліся апошнія мінуты ночы, да вакзала

60

заставалася некалькі сот крокаў, калі на дарозе вырас патрульны.

— Пропуск, — патрабаваў ён.

Аскер і Ланге спыніліся.

— Мы на цягнік, — сказаў Аскер. — Мы салдаты і ідзем на вакзал.

— Пропуск, — упарта паўтарыў салдат.

— Паслухай, — сказаў Ланге, — не будзь дурнем. Ну, адкуль у нас пропуск? Мы з батарэі, што каля лесу, ідзем на цягнік, бачыш — чамаданы.

Патрульны адышоў убок і махнуў рукой.

— Праходзьце, — стомлена сказаў ён. — Праходзьце, ды спяшайцеся, чорт бы вас узяў. Да поезда чвэрць гадзіны, калі не менш.

Шлях быў свабодны. Яны памалу рушылі наперад. Аскер быў раззлаваны. Вось і першая непрыемная нечаканасць: іх убачылі, як яны выходзілі з лесу. Першая нітачка, якая можа пацягнуцца да контрразведкі! Мільганула думка — устараніць патрульнага. Адзін рух і... Не, цела не схаваеш. Ды калі б і ўдалося схаваць — салдата ўсё роўна хопяцца. Пачнуцца пошукі. Не, не, гэта — горш! А так можна мець надзею, што балбатаць не будзе. Не ў яго інтарэсах.

Праз некалькі мінут яны былі на вакзале. Патрульны сказаў праўду. Неўзабаве аб'явілі аб прыбыцці поезда з усходу. Аскер і Ланге выйшлі на перон. З хлынуўшым з вагону натоўпам, яны накіраваліся да выйсця з вакзала. Кантрольны пост мінулі лёгка — пажылы салдат у акулярах пагартаў дакументы і кароткім кіўком дазволіў ім ісці. Афіцэр, які стаяў побач, здавалася, не звярнуў на іх увагі.

61

Яны выйшлі на плошчу. Абое ў паношаных ваенных мундзірах. Ланге — з пагонамі обер-яфрэйтара, Аскер — капрала. Яны селі ў трамвай і паехалі ў канец горада. Там выселі і пайшлі да старожкі. Яна была побач. З нізкага коміна віўся ледзь прыкметны дымок.

— Дома, — сказаў Ланге.

Але дома старога не аказалася. Там была маладая дзяўчына. Выявілася, што стары Лотар выехаў у Гамбург да крэўнага, які ляжаў там у шпіталі, а яе папрасіў паглядзець за домам.

Аскер і Ланге пайшлі ў горад.

— Цяпер будзем званіць на завод, Шталекеру, — сказаў Аскер. — Гаварыць з ім не трэба — толькі ўпэўніцца, што ён там... Дзе тут тэлефон?

— Будка ля прыпынку.

У будцы Ланге набраў нумар камутатара завода. Тэлефаністка адказала.

— Трэці цэх, — сказаў Ланге.

Праз некалькі секунд мужчынскі голас сказаў, што трэці цэх слухае.

— Калі ласка, механіка Ота Шталекера.

— Шталекер будзе праз дзве гадзіны, — адказаў голас.

62

## Думкі Яські Апалоніка

**Калі лгун гаворыць праўду, Яму ніхто не верыць; а калі справядлівы хлусіць, усе думаюць, што гэта чыстая праўда...**

* ✻ *

**У цемнаце патрэбны свет, а ў бядзе розум не паможа...**

* ✻ *

**Для доктара ўсе хворыя — сябры, але пакуль жывуць.**

* ✻ *

**Вароны кружацца там, дзе мяса, а п'яніцы, дзе прадаюць гарэлку..**

* ✻ *

**І дурны пакуль маўчыць, выглядае на надта разумнага.**

**Яська Апалонік**

### ГАСЦІННАСЦЬ

Муха да Слана:

— Запрашаю вас раздзяліць са мною маю скромную вячэру.

### ДЗЕ ГРОШЫ?

Жонка выправіла мужа ў горад прадаць вепрука. Дамоў ён вярнуўся ў вясёлым настроі з сябрамі — аднавяскоўцамі. Жонка яшчэ з парога грозна спытала:

— Дзе грошы?

— Грошы? Як дзе? Купіў лапату. Туды-сюды, хацеў табе на спадніцу набраць, і грошы ўсе!

### САПСАВАЛІ ШЫНЕЛІ

Цяжка жылося царскім салдатам, асабліва падчас манеўраў. Яны часта галадалі.

Аднойчы салдат палез да бабы ў склеп за малаком. Баба ўбачыла гэта і пачала крычаць, а салдат тым часам уцёк. Баба прыкмеціла на ім адну прыкмету, — распораную шынель (у вёсцы стаяла кавалерыйская часць) — і заявіла аб тэтым начальніку. Баба папрасіла паказаць усіх салдат, каб яна пазнала таго, што краў малако.

Салдат выстраілі. Баба абыйшла строй і, убачыўшы, што ва ўсіх салдат шынелі распораны аж да пояса, толькі рукамі ўспляснула.

— Вось дурні, за збаночак малака ўсе шынелі сапсавалі.



— Да д'ябла! Зноў вы паварушыліся!




## ДЗЕНЬ ЖАНЧЫН




— У гэты дзень, пані прафесар, мы павінны быць салідарныя.



— Сёння, з выпадку свята жанчын я пачытаю табе газету.



— Я... я хацеў толькі павіншаваць вас, пані доктар, з нагоды Дня жанчын.

### НЕ ПА ЗУБАХ

Падышла свіння да лужыны і ўбачыла ў ёй сонца. Плюхнулася ў гразь, а таго — як і не было. Хаўронння зноў паўтарыла свой захад. «Напэўна ж для мяне яно? — думае Хаўронння. — Калі - небудзь ды з'ем».

З таго часу свінні ўсё лезуць у гразь.

## ЛІСА І АСЁЛ

Не спадабалася Лісе Бабрыха,
Зрабіць Бабрысе хоча ліха —
З пасады хоча зняць яе.
Прычыны ж важнай нестае.
«Ага, знайшла!
Пайду я да Асла», —
Ліса рашае. І пайшла.
(Заўважым: быў Асёл не радавым,
Начальнікам ён быў і не малым).
Прыйшла ліса з усмешкаю нявіннай.
Прыемную зрабіла міну,
Прыемных пару слоў
Сказала пра аслоў,
Бо ведала, як ласы
Аслы на ўсякія прыкрасы.
А потым, памаленечку, паціху
Ліса распачала чарніць Бабрыху.
Асёл паверыў, сакратарцы звоніць:
«Пішы загад, пара Бабрыху зволіць...»

Ну што ж, часамі выпадкі бываюць,
Што плёткам беспадстаўна давяраюць.

**М. Урбановіч**

## НЕПАПРАЎНЫ



## ФІЛАТЭЛІСТЫКА

— Паблажліва я заўсёды глядзеў на філатэлістаў, — пачаў расказ Фама. — Найбольшым поспехам сярод філатэлістаў карыстаюцца сакратаркі.

Затым Фама кульнуў кілішак, панюхаў хлебную скарыначку, пасмактаў хвосцік селядца і працягваў гутарку:

— Сакратаркі маюць добрае сэрца, і, шкадуючы пашкоджаных хваробай калекцыянавання людзей, вырэзваюць з канвертаў ім маркі. Філатэлісты прымаюць гэты падарунак з глыбокай пашанай і пачынаюць паміж сабой абмен, намагаючыся пры гэтым надуць адзін другога. Шматлікія грамадзяне грабуцца ў паштовых марках, бы курыца ў дзярме. Знайшоўшы нешта, кудахтаюць, быццам брыльянт знайшлі.

Сустрэўся я аднойчы ў карчме з грамадзянінам, хворым філатэлістычнай ліхаманкай. Хворы быў нафаршыраваны маркамі, бы каўбаса саланінай. Аб кожнай марцы расказваў. У якім годзе і якім тыражом выдадзена. З боку выходзіла, чалавек вучоны, а ў рэчаіснасці, мазгавая сістэма засмечана паштовымі маркамі. Слова за словам, і паказвае ён мне блакітную марку з намаляванай радзіскай ці ружай. «Блакітную купіў за тры тысячы, — гаворыць, — гэта серыя складаецца з двух марак і каштуе пятнаццаць тысяч. За такую самую марку, толькі ружовую, заплачу пяць тысяч.» Не звярнуў я тады ўвагі на гэтыя словы хворага з паважання — філатэліст за пачастунак плаціў. Як выявілася, новы знаёмы, апрача філатэлістыкі, любіў гарэлку і ў гэтай карчме выконваў абавязкі штодзённа.

Тут Фама зрабіў паўзу, выпіў кілішак, пажаваў цыбульку, затым працягваў:

— Мо' два дні мінула, мо' тры — дні ў мяне не лічаныя. Іду па вуліцы, а на рагу чалавек стаіць, альбом разгорнуты трымае. Гартае альбом. Як у калейдаскопе паштовыя маркі мігаюць усімі колерамі вясёлкі. А на апошняй старонцы марка ружовая з радзісачкай. Устрасянуўся я, бы ад доктарскага ўколу, і пытаю, колькі каштуе ружовая з пятрушкай. Прадаўшчык тлумачыць: «Гэта бутон цюльпана, у серыі дзве маркі, але я маю толькі гэту, некамплектную, таму каштуе ўсяго дзве тысячы». Пачаў я тут таргавацца, адыходзіць, вяртацца, а прадаўшчык стаіць цвёрда, непарушна, як помнік перамогі. Нарэшце ударылі па руках, аддаў я за марку тры пяцісотныя паперкі. Прыходжу ў карчму, да філатэліста падсаджваюся, выкладаю марку на столік і кажу: за пяць з палавінай тысяч можаце забраць гэты бутон радзіскі. Філатэліст паглядзеў насмешліва і без нажа мяне рэжа: «Прадаў я, — гаворыць, — блакітную марку, таму непатрэбная мне ружовая». На другі дзень выявілася, што маёй ружовай марцы цана пяць злотых.

Фама змоўк, напоўніў свой кілішак, а я падумаў: меў рацыю Аляксандр Астроўскі, напісаўшы «Не ў свае сані не сядай». Хто суне нос у няведамыя справы, заўсёды па носе дастане.

Дзядзька Лявон

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**Па просьбе Галены Бажэнка з Валілаў, Беластоцкага павета, і «Беларускі» з Беластока змяшчаем папулярную савецкую песню.**

## ТИШИНА

Ночью за окном метель, метель,
Белый беспокойный снег.
Ты живешь за тридевять земель,
Ты не вспоминаешь обо мне.
Знаю я — ни строчки не придет,
Память больше не нужна.
По большому городу бредет
Тишина...

Ты меня не ждешь давным-давно
Нет к тебе путей-дорог.
Счастье у людей всего одно,
Только я его не уберег.
Ночью мне покоя не даёт
Горькая моя вина.
Ночью за окном звенит, поет
Тишина...

Только б мне тебя найти, найти,
Отыскать в любом краю,
Только бы сказать тебе «прости»,
Руку взять любимую твою,
Рассказать, как ночи напролёт,
Летом и зимой — без сна,
Здесь тебя со мною вместе ждёт
Тишина...

Знала б ты, как ночи напролёт,
Летом и зимой без сна
Здесь тебя со мною вместе ждёт
Тишина...

